Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 13 (101) Вільня, 27-га верасьня 1936 г. Год 4-ты.

## Камуна без камуністычнага зьместу і шлях змаганьня за лепшую будучыню.

Прашло амаль 20 гадоў з таго мамэнту, калі бальшавікі захапілі ўладу ў дзяржаўным маштабе ў свае рукі. Афіцыяльна яны абвесьцілі сябе рабоча-сялянскім урадам і энэргічна распачалі распраўляцца з так званымі ворагамі працоўнага народу. У лік ворагаў пры гэтым перш залічаўся кожны некамуніст, а цяпер, як бачым, — нават недаўняшнія заправілы камуністычнага руху, як Троцкі, Зіноўеў, Каменеў, Радэк і інш.

Перш казалі бальшавікі, што перашкаджалі завясьці рай на зямлі рознага роду контрэвалюцыянэры і такзваныя белагвардзейцы, але вось апошнія 15 гадоў яны ўладаюць 1/6 часткаю сьвету зусім спакойна — ўсіх унутраных ворагаў перамаглі, а звычайных, спакойных грамадзян аслаўленая Чэка, а пасьля ГПУ так перачысьцілі, што здаецца ўжо не засталося нікога, хто бы мог ці то яўна, ці то тайна ў чым-небудзь ім перашкаджаць. І дзіўна, не зважаючы на поўную сваю перамогу, бальшавіком нейк раю пабудаваць дасюль не ўдалося, наадварот, для самых тварцоў камунізму „савецкі рай“ ступнёва пачаўся ператварацца ў жудаснае пекла. Тыя, што яшчэ так нядаўна пасылалі тысячы людзей на растрэл ды павольнае кананьне ў тундры Сібіру, сёньня ганебна гінуць ад рукі сваіх-жа таварышоў, а нават вучняў.

Для замаскаваньня свайго ідэйнага банкроцтва камуністы прыдумоўваюць усё новыя ды новыя штучкі, але і яны мала што памагаюць.

І вось пасьля 20-ці гадовых няўдалых экспэрымэнтаў у розных галінах гаспадарчага і грамадзкага жыцьця, экспэрымэнтаў, якія пацягнулі за сабою мільёны нявінных ахвяраў, Сталін, сучасны непагрэшны „папа“ камунізму, пачаў біць адбой амаль па ўсім фронце: замест камунаў і калгасаў ступнёва варочаюцца бальшавікі да старое сыстэмы індывідуальнае гаспадаркі. Праўда, прыдумана яшчэ адна спроба з так званымі сельска-гаспадарчымі арцелямі, але відаць праз пару гадоў і яна збанкрутуе, бо-ж ня будзе людзей для яе выкананьня; 8-мі гадз. рабочы дзень у „савецкім раі“ абярнуўся ў жудасную для працоўных стаханаўшчыну; пакінена ўрэшце і аслаўленая „ураўнілаўка“, а вернены назад і чыны і рангі; лепш і горш платныя пасады і г. д. Замест вучнёўскіх камітэтаў, якія даконвалі калісь выбару сваіх настаўнікаў, замест розных *пэдалёгаў,* вярнуліся ўрэшце камуністы і да старое „буржуазнае“, так сказаць, школы і да старых *пэдагогаў*, бо ж пасьля 20-ці гадовае „ударнае“ працы на школьным фронце пабачылі, што далей ісьці з такім элемэнтам, які даюць савецкія школы, немагчыма.

Паводле бальшавіцкіх газэтаў: „Правды“, „Комсомольской правды“ і „Ізвестій“—рэзультаты дасюлешняй савецкай палітыкі ў галіне народнае асьветы прыблізна наступныя:

З пасярод 270 тысяч вучыцялёў пачаткавых школаў, 160 тысяч ня маюць вучыцельскага цэнзу і фактычна ня маюць права вучыць, 75 прац. вучыцялёў сярэдніх школаў ня маюць вышэйшае асьветы г. зн. таксама фактычна ня маюць права заставацца на займаных пасадах.

Як нізкі ровень сучаснага савецкага вучыцельства, відаць хоць-бы з дадзеных «Комсомольскай Правды“ з дня 10.IX. г.г., каторая між іншым падае, што на 200 тысяч вучыцелёў, якія з пачаткам гэтага школьнага году павінны былі атрымаць пасьля праверачнага экзамену вучыцельскія дыплёмы, атрымалі іх толькі 6600 чалавек.

Адных вышэйпаданых кароценькіх інфармацыяў савецкае прэсы хіба хопіць для таго, каб уявіць сабе рэзультаты 20-ці гадавога савецкага «соцыялістычнага“ будаўніцтва.

Сучасны сталінскі паварот на 1800 і на гэтым фронце, зразумела, адбываецца па агульна-прынятаму бальшавіцкаму шаблёну: тое, што нядаўна яшчэ было неабходным элемэнтам ,,соцыялістычнага“ будаўніцтва і аб чым так шырака трубіла ўся бальшавіцкая прэса, сёньня называецца фашыстоўскаю выдумкай, якую з няменшым азартам клеймііць тая-ж самая савецкая прэса.

Ясна, што такі цынізм магчымы толькі ў бальшавікоў і ў іх „соцыялістычнай“ прэсе. Тэрор і нізкі ровень інтэлігенцыі відаць не пазваляюць нават савецкім заправілам крытычна аднесьціся да такіх недарэчнасьцяў і абсурдаў.

Сучасны сталінскі паварот „лицом к старой системе“ нічога фактычна не пакінуў, як бачым, з камуністычнае праграмы, акром яе вонкавае абалонкі, якая яшчэ доўга патрэбна будзе бальшавіком для працы паза межамі „савецкага раю“.

Для ўнутранага спажываньня засталася толькі дыктатура Сталіна ды бязглуздае хамства ягоных „малайцоў“.

І прыходзіцца толькі дзіву давацца, як пасьля ўсяго таго, што творыцца ў ,,Саветах“, яшчэ знаходзяцца людзі паза межамі Расеі, якія адважваюцца пашыраць камуністычную прапаганду.

Чым гэта можна вытлумачыць? Адказаць на гэнае пытаньне трудна, бо-ж аднэй псыхозы ці нейкай бліжэй недасьледаванай бактэрыі — мала. Нармальны чалавек панашаму гэтай заразе паддацца ня можа.

Відаць паддаюцца гэтай хваробе: 1) з аднаго боку тыя, хто ня ведае праўды аб рэзультатах савецкага ,,соцыялістычнага“ будаўніцтва, 2) тыя, хто апынуўшыся ў немагчымых варунках страцілі надзею зьмяніць калі-небудзь свае немагчымыя абставіны і гэтым самым трапілі ў стан безнадзейнае дэпрэсыі,

3) урэшце тыя, хто за грошы ідзе на якую хоць працу, ведаючы, а мо і ня ведаючы аб той згубнасьці ня толькі для чалавецтва, а на'т для самога сябе гэнае працы.

Вось дзеля чаго кожны чэсны чалавек павінен лічыць першым сваім абавязкам расчыняць вочы сьляпым ці асьлепленым на камуністычную савецкую сапраўднасьць, бо-ж трудна сабе ўявіць, каб тое, што ў сучасны мамэнт творыцца ў Гішпаніі было карысна для народу і Дзяржавы.

Пасьля 20-ці гадовых савецкіх экспэрымэнтаў ува ўсіх галінах гаспадарчага, грамадзкага і дзяржаўнага жыцьця прыходзіцца згадзіцца, што найбольш жорсткімі, бязлітаснымі і крывавымі *эксплёататарамі працоўнага народу зьяўляюцца ніхто іншыя, як бальшавікі-камуністы.*

Палажэньне працоўных масаў ува ўсіх краёх цяжкое, гэта праўда, але трэба памятаць, што *выхад* з гэтага палажэньня дадуць *не камуністы,* а *самі рабочыя, згуртаваныя ў магутнай прафэсыянальнай арганізацыі на чале з сваёю інтэлігенцыяй.*

## Атака зброяю з чужога арсэналу.

Выходзіць вось у нас „дублетам“ газэта на расейскай мове ,,Наше Время“ і ,,Русское Слово“. Загаловак розны, зьмест —аднолькавы. Адрэс: Варшава — Вильно. Розьніца тая, што да газэты ,,Наше Время“ дадаецца рыская расейская газэта ,,Сегодня“, а ,,Русское Слово“ ідзе да чытачоў асобна. Выходзіць сабе газэта, солідная разьмерам, маючы ў сваім зьмесьце нявымоўна-глыбокую тугу па ,,турме народаў“ і, разам з газэтаю ,,Сегодня“, робіць, як кажуць, неблагі інтэрас. Напэўна не адна залатоўка трапляе ў бюджэт гэтае газэты і з беларускіх мазалістых рук.

Што-ж тут дзівіцца?

Не адна сотня гадоў расейскага панаваньня над намі дарма не прапала для „тутэйшае“ расейскасьці. Шмат меншыя лікам за нас ,,русскіе“ людзі ў Польшчы могуць сабе пазволіць роскаш выдаваньня штодзеннага часапісу.

Мы, нажаль, ня ўмеем ці ня можам зразумець важнасьці свае штодзеннае прэсы. Мы — бедныя матар'яльна, каб пазволіць сабе гэткую роскаш. А тымчасам народ наш, чытаць парасейску прывыкшы, чытае чужое. Бо свайго няма ў патрэбнай меры. Дый ня з кожнага беларускага сэрца выветрылася рабская туга.

Ёсьць у нас затое іншая культурная здабыча: ёсьць у Вільні Беларуская Філія Дзяржаўнае Гімназіі імя Юлія Славацкага — гэты адзіны, сказаць-бы так, карабель беларускасьці ў польскай асьветнай палітыцы.

І дзіўная рэч! Калі ўзяць пад увагу тое, што Беларуская Філія Гімназіі імя Ю. Славацкага зьяўляецца нічым іншым, як аўтаномнаю беларускаю сярэдняю школаю, дык здавалася-б, што кожны беларус, бяз розьніцы палітычных паглядаў, павінен быў-бы адносіцца да свае сярэдняе школы ну хоць-бы ня з меншым піэтызмам, як вышэй успомненае ,,Наше Время“ і ,,Русское Слово“ да расейскіх прыватных гімназіяў у Польшчы.

Ані ў расейскай, ані ў польскай прэсе ніколі нельга вычытаць нічога благога пра свае гімназіі або пра іх кіраўнікоў. А прозьвішча кіраўніка Беларускае Гімназіі гр-на Астроўскага, за трынаццаць гадоў кіраваньня гімназіяй, вытрымала ўжо не адну атаку газэт, якія выходзяць у Вільні на беларускай мове. Гэта зьявішча бязумоўна хваравлівае ў беларускім грамадзкім жыцьці Вільні і напэў-

(Працяг на 2 ст.).

а простыя духам вясковыя бацькі нашае школьнае моладзі няраз ужо ставілі сабе пытаньне: „Што гэта? Хамства нашых рэдактароў, ці нешта яшчэ горшае?“ Бо закуліснае паходжаньне ўсіх „сваіх“ родных атакаў на дырэктара Астроўскага ад вёскі далёка і ёй невядомае. Аб гэтым сьведчыць ну хоць-бы гэткае дробнае здарэньне: мінулым летам адзін вясковец спэцыяльна прыяжджаў у Вільню пабачыць дырэктара Астроўскага, перад тым, як аддаць у беларускую гімназію сваё дзіця, і быў вельмі зьдзіўлены, што дырэктар Астроўскі беларус, а не паляк, як чуў гэты вясковец ад спрытных агітататараў у сваёй ваколіцы.

Найсьвяжэйшыя дзьве „свае“ беларускія прэсавыя атакі мінулі для гр-на Астроўскага без найменшае, сказаў-бы той, кантузіі. Нават і бяз гэткай кантузіі, якую можна вычытаць у „худзенькіх“ успамінах аднаго, „архіўнага“ ўжо цяпер, беларускага дзеяча, напісаўшага кніжку „За двадцаць пяць гадоў“ з невядомай ніякай ваеннай навуцы „кантузіяй у... штаніну“.

Атакі, хоць і шкодныя, аднак ня страшныя, мінулі. Бо трудна атакаваць „музэйным пылам“ нават і з гэткае затручанае зброі, як — нябожчыца ўжо—„Наша Воля“.

Не ўзарвала гімнвзіі і не нарабіла вялікага гуку таксама і другая атака „сваіх“ — міна, пушчаная ў дырэктара Астроўскага „бязьдзетнаю“ рэдакцыйнаю калегіяй з „Беларускага Фронту“, у якім нашыя радзімыя „франтавікі“ любяць дзівіць беларускага селяніна сваімі тытуламі: то магістар, то інжынер, то... студэнт.

А калі „Беларускі Фронт“ ня мае яшчэ свае цяжкае зброі, каб выклікаць хоць вялікі гук, дык нятрудна ў „музэйнай“ цішы спрэпараваць востры набой, каб выстраліць у зусюль ужо абстралянага дырэктара Астроўскага, нарэшце, хоць і з чужое, але ўжо з „тоўстае Бэрты“.

Для нас ясна, што аднаго паходжаньня з ранейшымі атакамі і найсьвяжэйшая атака дырэктара беларускай сярэдняй школы, паведзеная на шпалтах „Русскаго Слово“ пад літарай М. схаваным аўторам.

Хітры панок М. на цэлай паўбачыне „Рус. Сл.“ пусьціў у ход усю сілу свайго рутынованага (як паказвае сам стыль) пяра, каб ачарніць гр-на Астроўскага, хоць загаловак свайго артыкулу — „Непростительное легкомыслiе, недосмотр, или —нѣчто еще хуже?“ — скіраваў у зусім іншы бок — у бок рэдактара журналу „Справы Народовосьцёвэ“ п. Папроцкага.

Час і месца не пазваляе нам даўжэй затрымліквацца над закідамі п. М. па адрэсе рэдактара Папроцкага. Жывём ужо ня ў „Сѣверо-Западном краѣ“ і думаем, што рэдактар Папроцкі сам патрапіць адказаць на стаўляныя яму п. М. закіды і даносы на яго польскім уладам.

А, цьвяроза глянуўшы на справу, прыходзім да пераканьня, што пану М., які ўзяўся іншых вучыць, як рэдагаваць журналы, варта было-б далікатней абходзіцца з праўдаю і ня гусьціць хварбаў вакол даўно адшумеўшага працэсу паміж дырэктарам Астроўскім і Луцкевічам, Самойлаю ды Трэпкай у „грамадзкім судзе“. Тымчасам пан М. ня толькі згушчае хварбы вакол гэтага працэсу, а „сваімі словамі“ стараецца фальшыва перадаць сэнс прыгавару, вынесенага грамадзкім судом.

Інфармуючы, няведама дзеля чаго, „русскаго читателя“ пра вышэйназваны працэс, пан М. адразу гусьціць:

„Тянувшiйся свыше полутора лѣт, процесс г. Островскаго закончился уничтожающе — суровым для него приговором, как это рѣдко случается в практикѣ подобнаго рода судов, построенных на принципѣ арбитража и кончающихся обычно „гнилым компромиссом».

Чаму панок М. называе ўсю гэтую справу „процессом г. Островскаго“, ведаючы добра, што ў працэсе гэтым гр-н Астроўскі ня быў стараною пазванаю. А бачыць у прыгавары грамадзкага суда „уничтожающую суровость“ немагчыма ніяк бесстаронаму чытачу гэтага прыгавару. „Уничтожающе — суровым“ прыгавар можа паказацца толькі зацікаўленай старане, якая была пазванай на грамадзкі суд.

Перадаючы-ж сэнс пункту А. прыгавару грамадзкага суда п. М. кідаецца на зусім ужо выразныя выкрутасы, цьвердзячы, што грамадзкі суд: „почти цѣликом призналь всѣ »финансово - этическiя“ обвиненiя, выдвинутыя противниками г. Островскаго: „самовольное („арбитральное“) и хаотическое распоряженiе общественными деньгами“, порождающее даже — „основательныя подозрѣнiя в недобросовѣстности“...

І гэта ў той час, як пункт А. пастановы грамадзкага суда мае вось які польскі тэкст:

„A. Uznać, że rozporządzanie się p. Radosława Ostrowskiego w czasokresie od r. 1930 do początku roku 1934 pieniędzmi, przeznaczonemi dla rozmaitych organizacyj białoruskich, było chaotycznem i arbitralnem, co mogło zasadnie wywołać podejrzenia nierzetelności; Sąd nie był w stanie odpowiedzieć na postawione mu zagadnienie, czy p. Ostrowski dopuścił się nadużyć pieniężnych na swoją własną rzecz“

З тэксту п. А. прыгавару грамадзкага суда зусім не выглядае, каб суд гэты бачыў нешта „порождающее основательныя подозрѣнiя в недобросовѣстности“, як гэтага хочацца пану М. з „Русскаго Слова“. Трэба думаць, што суд грамадзкі кажа аб „падазрэньнях нясуменнасьці“, якія маглі выклікацца ня ў суда, а ў праціўнай гр-ну Астроўскаму стараны. І калі на пастаўленае суду (ізноў такі праціўнаю хіба гр-ну Астроўскаму стараною) „загаднене“, ці п. Астроўскі дапусьціўся грашовых надужыцьцяў на сваю ўласную карысьць, суд ня быў у стане адказаць, дык для бесстаронага чытача ясна, што ніякага „уничтожающе-суроваго“ прыгавару для гр на Астроўскага тут няма. Наадварот— адпаў сам сабою найгоршы закід, пастаўлены гр-ну Астроўскаму, наскрозь прапечанаю шматгадовым палітыканствам, праціўнаю яму, стараною.

Далей у пісаніне пана М. чысьцейшы данос на гр-на Астроўскага „уважающей себя власти“, незразумелая зайздрасьць, што гр. Астроўскі да апошняга часу кары стаўся вынятковым даверрам сярод вышэйшых мясцовых уладаў, асабліва ў былога Куратара Віленскага Школьнага Вокругу п. Шэленгоўскага, зайздрасьць да „разнообразных талантов“ гр-на Астроўскага...

Але даволі аб усім гэтым. Паўстае пытаньне: які да ўсяго гэтага інтэрас „Русскому Слову“ ды „русскім“ чытачом, да якіх пан М. адрэсуецца? Не чытача „русскаго“ хацеў, відаць, пацешыць беларускімі балячкамі пан М., а хацеў ён чагось іншага: хацеў дабіцца канца дырэктарству гр-на Астроўскага ў беларускай гімназіі і канца існаваньню гэтае гімназіі, на вялікую можа радасьць „рускіх“ людзей.

Беларусу-ж кожнаму павінна быць ясна адно: усё няшчасьце гр-на Астроўскага ў тым, што меў ён працэс у грамадзкім судзе з нязусім беларускаю стараною. Што гэта была за старана — вычарпальны адказ на гэта дала беларуская моладзь у часапісе »Mowią Młodzi"! за 17 сьнежня 1935 году.

Няшчасьцем ужо не гр-на Астроўскага, а ўсяго беларускага руху зьяўляецца тое, што ён—рух малады і, як усякае маладое віно, бродзіць. Тое, што сярод іншых, абапёртых на шматгадовых традыцыях, грамадзянстваў немагчыма, у нас зьяўляецца зусім магчымым. У беларускі рух у мінулым лёгка змаглі ўмазацца розныя трусьліва-дробненькія душы, а часам і проста нават „нацыянальныя спарышы“, якія самі ня ведаюць, дзе і які іх родны грунт. Прыпёрты да муру гэтакі нацыянальны спарыш азначае сваю нацыянальнасьць проста „бялорусін-поляк“, быццам той наіўны прасьцячок. Часам ізноў уціраецца ў беларускі рух „прожженный“ расейскі палітык і, дзякуючы нашай лёгкавернасьці, грае не апошнюю беларускую ролю, каб пры першай магчымасьці, у крытычны для руху мамэнт, заявіць, што ён тут так сабе працуе для хлеба, скідае з сябе ўсякую адказнасьць і пераходзіць у стан „анабіозу (панашаму — паўсьмерці, нейкае замарожанасьці). Пры патрэбе, аднак, гэткі замарожаны Мэфістофэль гатоў аджыць нанова, каб стаць праціўнікам у грамадзкім судзе. Праціўнікам каго? Праціўнікам таго, каму шмат ужо гадоў бацькі шкаляроў-беларусаў, а ў апошнія гады нават і дзяржаўная ўлада, — павяраюць узгадаваньне і вывучэньне нашай моладзі. Узгадаваньне моладзі ў духу сьведамасьці яе дзяржаўнай польскай прыналежнасьці з аднаго боку і ў сьведамасьці свае нацыянальнае асаблівасьці з другога — задача нялёгкая, задача, як бачым, далёка няўдзячная.

І калі сярод нас знайшоўся чалавек, які адважна ўзяўся рашыць гэтую складаную праблему, дык ня дзіва, што пачаліся проці яго заўзятыя атакі ворагаў жывое яшчэ беларускасьці.

Трэба верыць, што атакі гэтыя не паслужаць на карысьць ворагам, не дадуць для іх пажаданага рэзультату. Не паможа ім ніякая барацьба нават і зброяю з чужога арсэналу.

## Тэмпы бальшавіцкага „будаўніцтва“.

Умеюць бальшавікі трубіць на ўвесь сьвет аб сваіх дасягненьнях, аб выпярэджваньні Эўропы, а жыцьцё пад іхнім кіраўніцтвам робіць сваё і часам дае цікавы матар'ял для савецкіх журналістых, непазбаўлены своеасаблівага гумару, дзе перамешваецца, як той казаў, „і сьмех і гора“.

Менская газэта „Рабочий“ апісвае вось якое здарэньне:

— „Роўна а 6 гадз. раніцай жыхары дому нумар 10-4 на Рокаўскай вуліцы збудзіліся ад грукату.

Адбылося нешта нязвычайнае.

Дом гайдануўся крыху, пасьля паддзыгнуў, а затым затрашчаў па ўсіх швох. Тт. Гобэрман, Тайц і Сьліозбэрг, што жывуць на 2-ім паверсе дому, падскочылі і кінуліся да вокнаў.

На падворку ўжо мітусіліся людзі. Яны нешта крычалі і паказвалі ўгару.

Усе жыхары паадчынялі дзьверы сваіх кватэраў і выскачылі за дзьверы.

Труба!... сходкаў не істнавала.

Старэзныя сходкі, даўно пагражаўшыя абвалам, нарэшце, зьдзейсьнілі свой замер і абярнуліся ў ворах трэсак.

Кватэранты аказаліся адрэзанымі ад усяго сьвету. Яны жаласна выглядвалі з вокнаў, размахвалі рукамі і крычалі, што ім трэба на службу. З падворку на іх з поўнаю спакойнасьцю пазіраў прэзэс жакту № 23.

— Вось дык журавіна!—рэзюмаваў ён свае думкі,—а я думаў, што сходкі яшчэ пастаяць з тыдзень. Скажэце, які сюрпрыз! Дзякуй, што толькі двое сьвіней задушыла, а рэшта ўсё — ў парадку.

Праз пару гадзін прыбыў цесель. Кватэранты спусьцілі з вакна вяроўку і, як мага лаючыся, цесель сяк-так дапоўз па ёй да 2-га паверху ды прарубаў дзіру ў столі. Небаракі кватэранты, падсаджваючы адзін аднаго, прабраліся ў кватэры іншых жыхароў і адтуль спусьціліся па другіх сходках.

Было гэта, трэба сказаць, яшчэ ў траўні. Цяпер ліпень, але сходкаў дасюль няма. Адзіным спосабам зносін, як і раней, зьяўляюцца падарожы праз дзіру ў столі.

Прэзэс жакту, паміж іншым, задаволены:

— Адна дзіра, — кажа ён, — і ніякіх сходкаў. Поўная эканомія!“

Гэтулькі піша орган сучаснае бальшавіцкае „шляхты“.

Цікава, сколькі „пяцілетак“ спатрэбіцца бальшавіком, каб чалавек там мог у сваю кватэру на паверсе трапляць, ня толькі, едучы „буржуазнаю“ віндаю, а проста ходзячы па сходках? Ці ня сымболічная вельмі гэтая дзіра ў столі аднаго з сталічных дамоў Савецкай Беларусі?

## Факты і лёгіка.

Мы, беларусы, даўно ўжо прызвычаіліся, што ў газэтах, польскіх эндэкаў і насьледнікаў па духу расейскае чорнае сотні, зьяўляюцца час ад часу проста «рэвэляцыйныя» стацьці, прысьвечаныя беларускай справе. Сярод віленскай прэсы першую скрыпку ў гэтым концэрце беларусаведства іграе заўсёды «Dziennik Wileński». Несьвядомае і сьвядомае (часьцей) фальшаваньне фактаў і злоснае будаваньне на ілжы розных недарэчных інсынуацыяў — вось сталыя мэтоды яго непаважнай „эндэцкай« працы.

Але вось у № 236 „Dziennika« з г. г. зьяўляецца стацьця п. наз. «Szkolnictwo mniejszościowe», аўтар якой, нейкі пан Ул. Двожачэк, выразна адыходзіць ад асьвечанага традыцыяй... шаблёну.

Пішучы аб беларускім школьніцтве, п. Двожачэк карыстаецца статыстыкай, і, што найдзіўнейшае, статыстыкай зусім правільнай. Голас за гэтае п. Двожачку!

„Школ з так званай беларускай мовай выкладаньня было ў 1934-5 г. пачатковых 16 з 2,1 тыс. вучняў і 1 гімназія з 200 вучнямі. У 1929-30 г. школ пачатковых было 26 з 2 тыс. і гімназіяў 3 з 400 вучнямі».

Статыстыцы гэтай нічога закінуць ня можам, але, як бачым далей, не заўсёды правільная статыстыка памагае рабіць правільныя вывады, калі чалавек не прызнае лёгікі, альбо... проста галава ня варыць, як любіў казаць мой стары вучыцель матэматыкі. Ізноў слова п. Двожачку: „Гэтае зьмяншэньне колькасьці пачатковых школ, так моцна значнае, пры захаваньні амаль тае самае колькасьці вучняў, сьведчыць вымоўна аб штучным перавялічваньні гэтай псэўда нацыянальнасьці. Як урэшце ведама, народ т. зв. беларускі, што жыве на поўнач ад Прыпеці на ўсходніх крэсах, зусім не жадае школ з мовай, якую сам называе „простай“, і тыя, што існуюць, ёсьць хутчэй творам штучнай агітацыі беларусаманаў, чым выразам нейкай істотнай, хоць-бы нават недастатачна сьвядомай патрэбы“.

Як бачым некаторым людзям ні факты, ні статыстыка, ні навука не памагаюць.

Мімаволі прыпамінаецца беларуская байка аб асле, які „так добра вучыцца ўмеў, што кніжкі ўсе як сена з'еў“! Кожнаму нармальнаму чалавеку ясна, што нязьмяншэньне ліку вучняў пры так значным зьмяншэньні ліку беларускіх школ, выразна сьведчыць аб неабходнай патрэбе беларускай школы, якую балюча адчувае вёска, пасылаючы сваіх дзяцей у беларускія школы за дзесяткі кілёмэтраў, а п. Двожачэк прыходзіць да вывадаў зусім адваротных. Ці-ж можна пасьля такіх прыкладаў „думаньня наадварот“ паважна трактаваць далейшыя вывады п. Двожачка:

„Рэасумуючы ўсё вышэйсказанае мусім прыйсьці да няэбітых

для здароўя хатніх птушак. У брудных курніках пашыраюцца ўсякія хваробы і разьвіваюцца розныя паразыты, якія губяць увесь дабытак і прыносяць вялікія страты ў гаспадарцы.

Здараецца нават і пры акуратным даглядзе, што нейкая птушка захварэе, але яе трэба тады зараз-жа аддзяліць, каб зараза не распаўсюджвалася. Большасьць гаспадароў не здае сабе справы з вялікай шкоды, якую прыносіць заразьлівая хвароба сярод хатніх птушак і часта тлумачыць „урокам“ суседкі.

### 1. Заразьлівыя хваробы.

Сярод заразьлівых хваробаў у хатняй птушкі найбольш распаўсюджаны—а) халера, б) мор, або курыная чума, в) дыфтэрыт, г) катар, д) сухоты, е) кокцідзіоза, ж) белая бягунка ў цыплятаў.

Апрача гэтага да заразьлівых хваробаў можна залічыць у пэўнай ступені і: а) сьверб, б) курыныя вошы, в) клешчы, г) глісты, д) пархі.

*Халера* сярод хатняе птушкі спатыкаецца найчасьцей у курэй і індыкоў, хаця вельмі часта бывае і сярод вадзяных птушак. Сымптомы наступныя: птушкі сумныя, пёры прыпаднятыя, крыльлі апушчаныя, грэбень цямнее ў курэй; шмат п'юць вады, мала ядуць, ногі слабнуць і ўрэшце выступае звычайная бягунка. Сьмерць наступае хутка. На 100 выпадкаў 90 канчаюцца сьмерцьцяй. Найлепшым сродкам ад халеры зьяўляецца прывіўка. Даваць хворым птушкам у парашку салоль, хіназоль або танальбін у колькасьці 0,1-0,2 грама на птушку, а да вады дадаваць некалькі капляў саляной кісьлі, каб вада была кіслая, як з цытрынай і ня выпушчаць птушак на панадворак.

*Мор, або курыная чума*—вельмі заразьлівая хвароба, нападае на курэй і індыкоў; вадзяныя птушкі не хварэюць на чуму. Наагул курыная чума мае падобныя сымптомы, як халера. Лячэньне пераважна бязмэтнае, бо навука яшчэ ня ведае прывіўкі ад чумы. Хворым птушкам трэба даваць ваду з сярчаным жалезам у колькасьці 3 гр. на літр вады.

*Дыфтэрыт* спатыкаецца сярод хатніх птушак у часе мокрай восені або вясны. Улетку і ўзімку хвароба гэтая вельмі рэдка выступае. Пеўуні горш пераносяць дыфтэрыт чымсь курыцы. Сымптомы дыфтэрыту наступныя: дрэнны апэтыт, цяжкое дыханьне і агульная аця жаласьць. З дзёбу выцякае ліпкая сьліна, вочы сьлязяцца, павекі пухнуць. На паднябеньні, пад языком і ў горле зьяўляюцца бела-жаўтаватыя наросты, якія ўсьцяж павялічваюцца і перашкаджаюць дыхаць птушкам.

Лячэньне дыфтэрыту вымагае шмат цярплівасьці і старанасьці. Хворых птушак трэба аддзяліць і трымаць у сухім, сьветлым курніку. Наросты два разы ў дзень змазываць 10% росчынам піоктаніны (фіалетавай) у гарэлцы. Вочы трэба прамываць цёплай вадой з борнай кісьляй (гарбатняя лыжка борнай солі на шклянку вады).

*Катар* спатыкаецца ў часе мокрай восені. Заражаюцца ім птушкі п'ючы з аднэй пасудзіны. Хаця катар заразьлівы, але вялікіх страт ад яго няма. Часта хвароба праходзіць сама па сабе. Найлепш смараваць ноздры гліцэрынай з ёдам і даваць піць ваду з саліцылам (на літр вады лыжачку ад гарбаты саліцылу).

*Сухоты* птушак ня маюць нічога супольнага з людзкімі сухотамі. З пачатку вельмі трудна адрозьніць хворую птушку ад здаровай і толькі пазьней пачынае птушка худзець, ня гледзячы на добры апэтыт; пёры робяцца матавыя, у канцы хваробы зьяўляецца бягунка. Хвароба не паддаецца лячэньню. У куратніку трэба абавязкава зрабіць дэзынфэкцыю.

*Кокцідзіоза* вельмі заразьлівая хвароба, спатыкаецца ў курэй, індыкоў, качак, гусей, а таксама і ў трусоў. Сымптомы падобныя, як пры сухотах. Радзяць даваць хворым птушкам гатаваны рыж і адвар з дубовай кары. Адвар атрымоўваецца ў наступны спосаб: 12 гр. дубовай кары заліваецца шклянкай вады і гатуецца да таго часу, пакуль ня выгатуецца 1/4 частка; пасьля гарбату гэтую трэба адцэдзіць і дадаць да яе 3 лыжкі гліцэрыны. Адвар ужываецца ў наступны спосаб: на лыжку вады даем 10 капляў адвару.

*Белая бягунка* спатыкаецца вельмі часта ў цыплятаў і прыносіць вялікія страты. Зьяўляецца яна вынікам няўмелага кармленьня або застужаньня. Хваробу пазнаць вельмі лёгка, адходы бываюць вадзяністыя, белыя і ліпкія. Даваць хворым вараны рыж і адвар з дубовай кары.

*Пархі* або лішай грэбня спатыкаецца ў курэй вельмі часта ў форме белай плесьні, пры чым пёры выпадаюць і лішай пераходзіць на шыю. Лечаць лішай шэрым мылам у наступны спосаб: хворае месца намазываецца шэрым мылам, праз поў гадзіны змываецца цёплай вадой і націраецца вазэлінай або тукам; можна націраць таксама гліцэрынай з ёдам.

*Сьверб ног* належыць да прыкрых хваробаў. Вельмі часта спатыкаюцца пры ім наросты або навапненьне на нагах. Хворыя ногі трэба націраць шэрым мылам і абвязываць шматкамі. На другі дзень ногі трэба вымачыць у цёплай вадзе і дэлікатна зьняць навапненьне. Праз некалькі дзён ногі трэба змазываць вазэлінай з дадаткам 15% крэоліну.

*Глісты* найчасьцей знаходзяцца ў дыхацельным горле. Пры глістох горла хворых птушак трэба лёгка смараваць тэрпэнтынай пры помачы гусінага пяра. Да ежы дадаваць часнок.

*Курыныя вошы* асабліва нішчаць пёры, дзеля чаго трэба іх перасыпываць пэрскім парашком і абціраць газай.

*Клешчы* знаходзяцца ў цёмных і брудных курніках. Яны нападаюць на птушкі і высмоктываюць ім кроў, што ў рэзультаце аслабляе арганізм птушак.

Бараніцца ад клешчаў можна наступна: шчэлі ў курніках замазываюцца вапнай з дадаткам шэрага мыла.

*Agricola.*

## Зварот пераплачаных падаткаў.

Скарбовыя палаты атрымалі загад зварочваць падатковым платнікам гатоўкаю тыя сумы, якія ўнесены зьверх нормы пры заплаце таго ці іншага падатку.

На жаданьне платнікаў пераплочаныя сумы павінны зварочвацца або ў касе дадзенай фінансавай інстытуцыі, або праз Р.К.О.

## Палёгкі для застрахованых маемасьцяў.

Міністэрства Грамадзкай Апекі загадала страхавым інстытуцыям, каб апошнія давалі рад палёгак дробным гаспадарствам у ўсходніх ваяводзтвах.

Згодна з абежнікам міністэрства, палёгкамі гэтымі маюць права карыстацца выключна дробныя гаспадаркі, якія маюць менш за 50 гэктараў зямлі, і якія знаходзяцца на абшарах Віленскага, Беластоцкага, Навагрэдзкага, Валынскага і Палескага ваяводзтваў.

Даўгі, якія налічаліся на дзень 1 ліпня г. г., павінны быць падзелены на 6 аднолькавыя паўгадовыя раты, якія трэба заплаціць у тэрмінах, установленых для платніка, пачынаючы ад 20 студзеня 1937 году.

## На гішпанскім фронце.

Гавас певедамляе з Буэнос-Айрэс, што гішпанскі прэзыдэнт Азанья і некалькі выдатных палітыкаў зьвярнулася да аргэнтынскага пасольства з просьбай удзяліць ім месца прабыцьця.

——

Ген. Мольля ня прыняў умовы губэрнатара Більбао і патрэбаваў бязумоўнай здачы гораду. Пасьля гэтага эскадра самалётаў пачала бомбардаваць Більбао, дзе ў шмат якіх мясцох успыхнулі вялікія пажары. У форме рэпрэсыі чырвоныя расстралялі 20 заложнікаў.

——

На развалінах замку Альказар усьцяж ідуць баі. Гeроўскія кадэты, якія асталіся жывымі пасьля падмінаваньня і ўзрыву замку чырвонымі войскамі, і надалей адкідаюць усякія прапазыкі аб капітуляцыі. Часьці развалінаў, захопленыя чырвонымі, прадстаўляюць сабой прост жудасны від. Каменьні аблітыя кроўю. Усюды ляжаць трупы. Паўстанцы на толедзкім фронце атрымалі захад прысьпешыць і ўсіліць вайсковыя дзеяньні, каб прыйсьці з дапамогай кадэтам у Альказары, якіх у сучасны мамэнт налічваецца каля 800—1000 чалавек.

——

Няўдачы мадрыцкага ўраду на фронце ўнутранай вайны выклікаюць у тылох незадаваленьне сярод насельніцтва. З Мадрыту паведамляюць, што рад выдатных дзеячоў народнага фронту пакінуў Гішпанію і перайшоў францускую граніцу. Прыбыўшыя з Барсэлёны перадаюць, што ў будынку, у якім месьціцца гішпанскі ўрад, на днях адбылася перастрэлка між камуністамі і анархістамі.

Радыястанцыя ў Тэнэрыфе перадае сэнсацыйнае паведамленьне аб тым, што ў Барсэлёне пачалося паўстаньне проці прэзыдэнта Каталёніі. Вынікі паўстаньня яшчэ няведамыя.

Гарнізон у Лерыдзе, які дагэтуль быў верным мадрыцкаму ўраду, аднагалосна выказаўся за далучэньне да паўстанцаў і заявіў аб гэтым паўстанцкаму камандаваньню ў Хуэску.

## Ізноў конфлікт між Японіяй і Кітаем.

У Шанхаі здарыўся новы выпадак, у часе каторага кітайскія нацыяналісты напалі на трох японскіх маракоў, якія праходзілі па галоўнай вуліцы міжнароднай часьці гораду. Адзін марак быў забіты, другія два былі ранены. Атрад японскай марской пяхоты неадкладна акружыў месца праступку і прыступіў да вобыскаў прахожых і блізка ляжачых дамоў. Быў арыштаваны кітаец, пры якім знойдзена аружжа.

У Шанхай прыбыла 500 чалавек марской пяхоты. Японскія стражы дзяжураць ня толькі ў міжнароднай часьці гораду, але і ў прылягаючых да яе кітайскіх раёнах. Пратэст кітайскіх уладаў проці гэтай вайсковай акупацыі японцы адкінулі. На кожным рагу стаяць танкі ў баявой гатоўнасьці. Японцы акупавалі таксама і Цьендончан, першую чыгуначную станцыю за Шанхаем. Японскі міністар выступіў з заявай, у якой кажа, што Японія, нажаль, павінна цяпер узяць сама на сябе адказнасьць за бясьпечнасьць жыцьця і маемасьці японцаў у Кітаі і прыняць усе дзеля гэтага меры, якія Японія знойдзе патрэбнымі.

## Францыя-Камінтэрн.

„Амі дзю Пэпль“ падае сэнсацыйныя дадзеныя адносна нядаўнай паездкі павадыра францускіх камуністаў Торэса ў Варшаву, куды спэцыяльна для сустрэчы з Торэсам прыехаў Мануільскі.

Варшава была выбрана дзеля таго, каб не ствaралася ўражаньне, быццам француская камуністычная партыя атрымоўвае дырэктывы з Масквы.

Мануільскі перадаў Торэсу, што як Сталін, так і старшыня камінтэрну Дзімітраў вельмі незадаволены францускай камуністычнай партыяй, якая не спаўняе заданьні камінтэрну. Мануільскі падчыркнуў, што саветызацыя Францыі праводзіцца ў вельмі павольным тэмпе і ў гэтым вінаваты францускія камуністы, якія не выяўляюць дастатачнай актыўнасьці. Масква дамагаецца, каб кіраўніцтва францускай камуністычнай партыі прыняла больш рашучыя меры дзеля выкараненьня антыкамуністычнага руху ў Францыі.

## Палепшаньне інфармацыйнай сыстэмы для лётарэйных ігракоў.

Перад кожнай пачынаючайся Лётарэяй Генэральная Дырэкцыя Дзяржаўнай Лётарэі атрымоўвае вялікую колькасьць запытаньняў у справе адрасоў колектараў, у каторых знаходзіцца дадзены нумар лёсу. Дагэтуль тэхнічнае бюро Дырэкцыі інфармавала пісьменна аб шуканых адрасох. З увагі на вялікую колькасьць гэткага роду корэспондэнцыі, выніка, прыходзіліся часамі зацікаўленым даволі доўга чакаць на адказ, а апрача таго ігрок пасьля атрыманьня адказу ад Дырэкцыі паносіў кошты новага пісьма да колектара.

Пачынаючы ад сучаснага мамэнту Дырэкцыя будзе перасылаць атрыманае запытаньне беспасрэдна да адносных колектараў з загадам задаволеньня пытаючагася, што палепшыць абслугу і зьменшыць кошты іграка.

Зразумела, што сыстэма гэтая можа быць застасована толькі ў тым выпадку, калі запытаньне датычыць аднаго нумару. Таму ў асабістым інтарэсе ігрок не павінен абцяжаць запытаньне непатрэбнай колькасьцяй нумароў, але падаць толькі той нумар, каторы сапраўды хоча мець.

## Японска-нямецкі дагавор.

Корэспондэнт агенства „Гавас“ паведамляе, што ў сучасны мамэнт вядуцца падгатаваўчыя перагаворы дзела падпісаньня дагавору аб узаемным падтрыманьні між Нямеччынай і Японіяй. Нямецкі пасол у Токіо цяпер знаходзіцца ў Бэрліне і на днях павінен будзе паехаць у Японію, каб скончыць фармальнасьці ў справе падпісаньня памянутага дагавору.

## Ліга Народаў.

Як ведама, Муссоліні ў свой час заявіў, што Італія прыйме ўдзел у апошнім паседжаньні Рады Лігі Народаў толькі ў тым выпадку, калі будуць адкліканы прадстаўнікі Абісыніі. Аднак справа гэтая аказалася вырашанай не па думцы Італіі. Ліга Народаў пастанавіла перадаць гэтае пытаньне для разгляду Гаагскаму Трыбуналу, а да часу яго вырашэньня пазволіць дэлегатам Абісыніі прыймаць учасьце ў нарадах сэсыі.

У сувязі з гэтым ходзяць чуткі, што Італія можа выступіць са складу сяброў Лігі Народаў.

Пакуль што Італія адклікала сваіх прадстаўнікоў, якія бяз усялякага высьненьня пакінулі міжнародную конфэрэнцыю аб радыёперадачах.



Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.